# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 31 (1681) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 31 ЛІПЕНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.


## У кругу вялікага мастацтва

Пішучы аб Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы ў маі 1988 г., мы сказалі, што пра два хоры гэтага фестывалю з Савецкага Саюза мы напішам асобна. Гэта: „Древнерусский распев“ з Масквы і змешаны хор Педагагічнага вучылішча з Гродна. Першы — царкоўны, другі — свецкі. Яны прадставілі нам вялікае праваслаўнае царкоўнае співанне, усё багацце яго стыляў і апрацовак.

Пазнаёмілася я з дырэктарам хору „Древнерусский распев“ — Георгіем Палячэнка (яго бацька родам з Віцебшчыны), маладым літаратарам, закончыўшым Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. Ён надпісаў мне зборнік вершаў студэнтаў гэтага інстытута пад загалоўкам „Тверской бульвар — 25“, у якім надрукаваны і яго вершы.

Хор „Древнерусский распев“, які працуе пад кіраўніцтвам Анатолія Грындзенка, існуе трэці год. Быў арганізаваны па благаслаўленні мітрапаліта Юр'еўскага і Валаамскага Пічірыма пры выдавецтве Маскоўскай патрыярхіі, для таго, каб, як сказаў Георгій Палячэнка, „углубить представление об истоках нашей культуры, её жизненной приемлемости в наше время“.

Хор спявае гімны з запісаў XVI-XVII ст. ст., але корнямі яны ідуць у XI-XIII ст. ст., а нават у самыя пачаткі хрысціянства на Русі. Хор сваёй дзейнасцю выконвае вялікую і важную работу па адраджэнню ўсходнеславянскай і рускай духоўнай культуры і традыцый, па характару, як ведаем, нязменна праваслаўнай.

У конкурсным выступленні ў Гайнаўскім саборы хор праспяваў 11 гімнаў і была гэта вялікая і натхнёная сімфонія, узвышаючая слухача да нябёсаў і прылучаючая яго да бажаства.



*Камерны з Гродна.*

Хор выконвае гімны знаменнага распеву[1] ў яго найдаўнейшым стылі і ў стылі партэснага спеву[2].

У партэсным спеве якраз, дасягаючы граніц дасканаласці, хор велічна выканаў два гімпы: „Ныне отпущаеши“ і „Жертва вечерняя“ — абодва з салістам Арцёмам Рэзнічэнка — барытон! Ужо на канцэрце лаўрэатаў у Гайнаўскім доме культуры на „біс“ хор і саліст заспявалі вельмі цікавую і старую песню, з перыяду Кіеўскай Русі, бадай, пра разбойніка. Хор пачынае так: „Господу Богу помолимся, древнюю быль возвестим“, — тут уваходзіць саліст, пачынае расказ: „Жыло двенадцать разбой-

(Працяг на стар. 4)

## Міжнародная беларусазнаўчая...

Трыццацігоддзе Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ было галоўнай прычынай арганізавання ў Беластоку навуковага мерапрыемства, якое ўвойдзе ў гісторыю пад загалоўкам: „Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная польска-беларускім літаратурным адносінам з нагоды 30-годдзя беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа“. Арганізатарамі канферэнцыі былі: Руская філалогія філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, Аддзел культуры і мастацтва Ваяводскай управы ў Беластоку, Таварыства польскіх русістаў — аддзел у Беластоку, Ваяводскае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку.

Канферэнцыя праводзілася 24 і 25 чэрвеня 1988 года. Прысутнічалі многія вядомыя даследчыкі з Вроцлава, Варшавы, Беластока, Мінска, Гродна і Нью-Йорка. Як гэта часта ў такіх выпадках бывае, не ўсе запрошаныя дакладчыкі прыехалі. Аднак, рашучая большасць з'явілася і выступіла з вельмі цікавымі дакладамі, прысвечанымі розным аспектам польска-беларускіх літаратурных суадносін і творчасці „белавежцаў“.

З прывітаннем удзельнікаў канферэнцыі і ўступным словам выступіў дацэнт Ян Чыквін, які падкрэсліў, што ўзнікшае ў 1958 годзе літаратурнае аб'яднанне „Белавежа“ сталася істотным фактарам польска-беларускіх узаемасувязей. Прынцыпы ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў васьмі „белавежцаў“ з'яўляецца сведчаннем узроўню і рангу творчасці беларускіх аўтараў у Польшчы. Як даўней, так і сённяшнія праявы польска-беларускіх літаратурных кантактаў павінны стацца аб'ектам вывучэння з боку крытыкаў і вучоных. Сённяшняя канферэнцыя пацвярджае такую патрэбу і тое, што навуковыя мерапрыемствы падобнага тыпу павінны стацца пастаяннай практыкай.

Першым дакладчыкам быў вядомы пісьменнік і рэдактар часопіса „Літаратура на свеце“ Яўгеніюш Кабац. У дакладзе: „Незвычайны сэнс літаратуры пагранічча“ ён сцвердзіў, што творчасць „белавежцаў“ — з'ява унікальная. Спецыфіка іх пошукаў заключаецца ў тым, што дзейнічаюць яны на пагранічы

(Працяг на стар. 3)



*Удзельнікі канферэнцыі: (злева) д-р Аляксандр Баршчэўскі, Яўгеніюш Кабац і дац. Фларыян Няўважны (Варшава); Барыс Сачанка і Серафім Андраюк (Мінск).*

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Віктар Швед

## ДАКУЛЬ МНЕ МЫЦЬ РУКІ?

Раніцою запытаў матулю
Ў школу адыходзячы Арцём:
— Ты якую мне дасі кашулю,
З доўгім ці кароткім рукавом?

— А чаму ты запытаўся,
сынку? —
Хоча знаць найлепшая з матуль.
— Рукі буду мыць я за хвілінку,
Дык хачу даведацца дакуль.

## ДОПІНГ

— Матулька ты каханая,
Скажу табе я шчыра:
Не буду піць паганага
Я рыбінага жыру.

Спаборніцтвы спартыўныя
У нас у школе ўсё-ткі,
Дык, скажуць, што актыўныя
Прымаў на допінг сродкі.

## МІКІТКА СПІСВАЕ З ЧУЖОГА СШЫТКА

Настаўнік кажа на ўроку:
— Спадзяюся, сваім зрокам
Я не ўгледжу, як Мікітка
Спісвае з чужога сшытка.

— Спадзяюся я таксама
На гэтае ж самае.
Іначай будзе вельмі брыдка, —
Адказаў Мікітка.

## ТУПАЯ БРЫТВА

Бацька брыецца ды лае:
— Што зрабілася, браточкі,
Мая брытва так тупая,
Не бярэ ні валасочка.

Адазваўся сынок Воўка:
— Дык няпраўда гэта, татка,
Прад хвілінаю алоўкі
Завастрыў я брытвай гладка.



Сцэна з п'есы „Мікітаў лапаць" у выкананні вучняў з Барысаўкі. Пастаноўкай гэтай п'есы барысаўцы занялі I месца ў сёлетнім аглядзе школьных тэатральных калектываў.
Фота Я. Чэрнякевіч.



У конкурсе беларускай песні для школьнікаў заўсёды з вялікім поспехам выступае хор са школы ў Ляўкове. Кіруе хорам настаўнік Васіль Целушэцкі.
Фота Я. Чэрнякевіч.

Алена Мімрык
Дзіяна Энціна




**Пачатак у папярэднім нумары**

У Бразавілі , сталіцы Народнай Рэспублікі Конга, Волю здзіўляла ўсё: і расліны, і птушкі, і розныя гукі. Але самым незвычайным быў надыход ночы. Пакуль яны з мамай прыбралі ў кватэры, пакуль вырашалі, дзе будуць жыць Воля і Мурзік, за акном зусім сцямнела. Яшчэ толькі што спякотнае сонца асвятляла ўсё навокал, ляталі птушкі, матылькі, ярка блішчэла зялёніна дрэў, як раптам, у нейкае няўлоўнае імгненне, усё зусім мяняецца, сонечныя промні робяцца ласкавымі, прыемнымі, і адразу ж сонца пачынае садзіцца, усё ахутвае цемра, быццам хтосьці нябачны павярнуў выключальнік за сценамі дома.

— Вось бачыш, дачушка, што такое краіна, якая размешчана па абодва бакі экватара, — усміхнуўся Валерый Васільевіч. — Назірай і параўноўвай. Толькі тады ты навучышся разумець краіну, куды мы прыехалі.

Воля выйшла на ганак паглядзець, як на змену дню прыходзіць ноч. Бясшумна снуюць кажаны, лятучыя сабакі, вялізныя жукі-галіяфы. Змаўкаюць птушыныя спевы, затое рэзка і аднастайна крычаць совы і тыя ж лятучыя сабакі. Каля электрычных ліхтароў, бы тыя сняжынкі, кружацца матылькі.

— Цяпер ідзі спаць, — сказаў тата, — каб не прапусціць нараджэння новага дня.

* * *

Воля прачнулася і назірала, як хутка настае раніца. Толькі што было зусім цёмна і ціха. Ды вось пачынаюць нясмела перамаўляцца птушкі. Палоска на небе святлее, нечакана разліваецца святло па ўсім небе, і адразу ж падымаецца сонца, пасылаючы на зямлю свае цёплыя промні. Чуецца шчабятанне маленькіх птушачак, вельмі падобных да вераб'ёў. Пазней Воля даведалася, што птушачкі гэтыя завуцца ткачыкамі, што жывуць яны ў гнёздах-кошыках, якія ладкуюць з валокнаў пальмавых лісцяў.

У першы дзень прыезду ў пакой заляцела афрыканская аса з доўгім тулавам і яшчэ даўжэйшымі лапамі. Страшная, жоўтая, у чорную палоску, яна гула басам і шукала ціхае месца, дзе б змайстраваць хатку для лічынкі. У пярэдніх лапках яна несла маленькі, з невялікую гарошыну, шарык спрасаванай гліны. Воля спалохалася, паспрабавала адмахнуцца.

Не паспела Воля апамятацца, як убачыла на падаконніку са-

(Працяг на стар. 10)

# ТАМ, ДЗЕ ЦЯЧЭ РАКА КОНГА



(Працяг са стар. 9)

раканожку. Была яна велічынёю з аловак. „Ножкі“ яе, бы вялікія чарвякі, рухаліся хутка-хутка. Волі аж страшна стала глядзець на яе.

І тут зноў у пакой вярнулася аса. Воля якраз глядзела на сараканожку, а яе правая рука ляжала на спінцы крэсла. Дзяўчынцы здалося, быццам нешта дакранулася да яе пальцаў, і яна страсянула руку. І адразу ж адчула боль у пальцы. Палец апух на вачах. Услед за ім і рука зрабілася, як калода. Укус асы вельмі пякучы. Толькі гадзіны праз дзве пухліна пачала спадаць, а ўвечары Воля нават забылася аб гэтым непрыемным здарэнні.

Як высветлілася, асіныя ўкусы не самае страшнае. Новыя кангалезскія сябры папярэдзілі прыезджых, што яны павінны сцерагчыся змяіных укусаў, а таксама малярыйных камароў, якіх тут процьма. Каб не было непрыемнасцей, вокны зацягваюць жалезнай сеткай, а да ложкаў прырабляюць мустыкеры. Яны падобныя на вялікі каўпак. Пад столлю на крук падвешваюць сабраны ў вузел вялікі балдахін. Край яго на ноч апускаюць. Спіш, як пад каўпаком, — і дыхаць можна, і камары не дакучаюць.

У Бразавілі мустыкеры шыюць проста на вуліцы. Дзе-небудзь каля крамы пад нацягнутым тэндам сядзіць майстар-мустыкершчык са сваёй швейнай машынай, тут жа прымае заказы, шые мустыкеры, а лішнія аддае на продаж гаспадару крамы.

У самы спякотны час сутак — з поўдня да трох гадзін — кангалезцы адпачываюць. А потым з новымі сіламі бяруцца за працу.

Сям'і доктара трэба было прывыкаць да людзей, да клімату, да новага рытму жыцця. І яшчэ трэба было падумаць пра школу.

Запісвацца ў кангалезскую школу Волю павёў Валерый Васільевіч.

Яны ўвайшлі ў двухпавярховы будынак. У ім было халаднавата і ціха. Патыхала фарбаю. Дзверы класаў былі зачынены. Указальнік прывёў іх да кабінета дырэктара. Дырэктара на месцы не было. Сакратарка запісала Вольгу Пятроўну ў журнал дзевятага класа. Яе і тату гэта не здзівіла, бо яны ведалі, як лічацца класы ў кангалезскай школе: 12-ты — падрыхтоўчы. 11 — першы. Потым ідзе 10-ты — другі, а дзевяты адпавядае трэцяму, у якім павінна вучыцца Воля.

Працяг будзе

# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## АДНА — НА ПОЎДЗЕНЬ

Усе рэкі Польшчы плывуць на поўнач і кончаць свой шлях у Балтыйскім моры або ў большых рэках, якія таксама даносяць іх воды да мора. Толькі адна-адзіная рэчка ў нашай краіне належыць да водараздзелу Чорнага мора. Называецца гэта рэчка Стрвёнж. Бярэ пачатак у Бяшчадах у ваколіцах Устшыкаў Дольных і даносіць свае воды да Днестр, рэчку, якая ўпадае ў Чорнае мора.

## 500 МІЛЬЁНАЎ КРОКАЎ

Чалавек за адзін дзень робіць каля 20 тысяч крокаў. За год гэты лік узрастае да 7 мільёнаў, а за 70 гадоў жыцця — да 500 мільёнаў крокаў. Гэтай велічыні хапіла б, каб дзевяць разоў абысці Зямлю ўздоўж экватара або прайсціся шпацырам на Месяц.

## КАЛЯРОВЫ КАНТЫНЕНТ

Антарктыду называюць Белым кантынентам. Насуперак гэтай назве людзі, якія там пабывалі, расказваюць нешта зусім адваротнае. Аказваецца, ваколіца паўднёвага полюса ў сонечны дзень вельмі каляровая. Сонечныя промні афарбоўваюць лёдавыя горы ў ружовы колер, жоўты, аранжавы ці нават фіялетавы. Рознакаляровымі бываюць таксама скалы — ад блакітнага да сіняга колеру. Але як толькі сонца заходзіць, усё становіцца малочнабелым.

## У КАГО БОЛЬШ МОСТАЎ

Венецыя, якая ляжыць на 118 астравах, славіцца сваімі мастамі. Ёсць іх там 400. Але Ленінград мае іх значна больш — 602, а Берлін — 600.

У Польшчы Вроцлаў, які ляжыць над пяццю рэчкамі (Одра, Алава, Відава, Слензa, Быстрыцa) і перарэзаны шматлікімі каналамі, ганарыцца сваімі 100 мастамі.

У Быдгашчы, якую часам называюць польскай Венецыяй, толькі трошкі больш сарака мастоў.

## ПЕРШАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

Першую гарадскую электрастанцыю пабудаваў Томас Эдысан у Нью-Йорку ў 1882 годзе. Яна служыла для вытварэння электрычнай энергіі для 1284 лямпачак.

## НАЙБОЛЬШАЯ Ў СВЕЦЕ

Найбольшая ў свеце электрычная лямпачка зроблена ў Японіі. Яна знаходзіцца ў Токіо. Сіла святла ў ёй 500 кВ, дыяметр 60 см і свеціць як пяцьсот 100-ватавых лямпачак. Пры святле гэтай лямпы можна чытаць газету ў адлегласці 0,5 кіламетра.

## СУХІ ДОЖДЖ

У пустыні дождж ідзе вельмі рэдка. Але калі ўжо ідзе, дык можна бачыць такую з'яву: бачым, як падаюць кроплі, але яны, не далятаюць да зямлі, высыхаюць. І стаім нібы пад дажджом, а нас ён не змочыць. Вось вам і сухі дождж.

# ДЗІЦЯЧЫЯ МАЛЮНКІ



Малявала шасцігадовая Івонка Юрашак са Слубіц спецыяльна для „Зоркі“. Малюнак называецца „Так мы гуляем“.

# ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220060, г. Мінск — 60, вул. Карпава, 8, кв. 4. Люда Шкілёнак. 4 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск — 60, вул. Лермантава, 39, кв. 6. Лена Матвеева. 4 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Карпава, 8, кв. 1. Віталік Мацельскі. 4 клас.

* * *

БССР, 220102, г. Мінск-102, вул. Байкальская, 33, кв. 89. Таня Ермаковіч. 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Карпава, 8, кв. 10. Кірыл Скіндзер. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул Волаха, 25, кв. 27. Дзмітры Лакціёнаў. 5 клас.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

Прыходзіць вучань у кнігарню і просіць:

— Дайце мне, калі ласка, „Трох мушкецёраў“.

— На жаль, не маем, — адказвае прадаўшчыца.

— Дык дайце хоць аднаго, — просіць хлопец.

* * *

Зося прыбегла на стадыён.

— Які лік? — запытала яна.

— Нуль-нуль! — адказалі ёй хлапчукі-футбалісты.

— А ў чыю карысць? — зноў пацікавілася дзяўчынка.

* * *

— Янка, што ты там пры стале робіш?

— Пішу пісьмо, — адказвае хлопчык.

— А што пішаш?

— Гэта я яшчэ не магу ведаць, бо я яго толькі заўтра атрымаю.

* * *

На заканчэнне школьнага года Пеця прыходзіць дадому без пасведчання. Як толькі ён увайшоў у хату, маці зрываецца з крэсла.

— Не ўставай, — кажа Пеця, — застанься сядзець, я таксама сядзець застануся.

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




Паглядзі, хто з дзяцей якога змея запусціў. Памалюй карцінку каляровымі алоўкамі.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка“.

# ЛАСЫ ЗЯЦЬ

**(жартоўная песня)**

*Толькі зяць на парог —*
*Цешча — к самавару.*
*Не ўважае Цімох*
*Слабага навару.*

*Прыпеў:*

*Ох, і ласы зяць,*
*Любіць толькі ўзяць.*
*Кажа: „Вугалькамі...*
*Буду аддаваць".*

*Толькі зяць на парог*
*Цешча — па каўбасы.*
*Да прысмакаў Цімох,*
*Як да мёду, ласы.*

*Прыпеў*

*Толькі зяць на парог —*
*Цешча — па сланіну*
*А Цімох — не ўзалог! —*
*Просіць на машыну.*

*Прыпеў*

*Не паладзіў Цімох*
*З цешчай дарагою.*
*Толькі ступ на парог —*
*Цешча — вон мятлою!*

*Прыпеў:*

*Ох, і ласы зяць,*
*Любіць толькі ўзяць.*
*Кажа: „Вугалькамі...*
*Буду аддаваць".*



Хто хоча сабаку ўдарыць, той палку знойдзе. Гэта яшчэ не так блага; значна горш, калі нехта мае палку і шукае сабаку, каб ударыць.

*

— Вы разводзіцеся са сваім мужам?
— Мне надакучыла ўвесь час быць адной.

*

— Застрахуйце сваё жыццё! — сказалі аднаму маладому чалавеку.
— Ды я не збіраюся паміраць.
— Ну, дык ад няшчаснага выпадку на працы.
— Я і не думаю працаваць.



Малюнак П. САЛДАЎЕНКІ.

# НІЎКА



— *А я сваю для гандлю рыхтую.*

Малюнак А. ПАПОВА

*

Мы не можам чакаць ласкі ад прыроды пасля таго, што з ёй зрабілі.

*

Некаторыя думаюць: лепш пасадзіць праўду ў прэзідыум, чым выпусціць яе на трыбуну.

*

Ён перад выступленнем збіраўся з думкамі, якія выказвалі іншыя.

*

Яны разам з'елі пуд солі і разышліся.

*

Была б у мяне хоць адна добрая якасць, я схаваў бы за ёй усе свае недахопы.

*

Ён быў птушкай невысокага палёту, але вельмі індычыўся.

*

Трымай сябе ў руках, інакш гэта зробяць іншыя.

*

Бяздарнасці — па-за законам развіцця матэрыі: іх колькасць не пераходзіць у якасць.

— СУЧАСНА АПРАНАЦЦА О-ОХ ЯК ЦЯЖКА...

Малюнак А. ПАПОВА

**Па службовай лесвіцы можна толькі падымацца. Уніз жа не спускаецца, а скачацца.**

А. Аляксейчык

## ТАК І ЎТАПІЦЦА МОЖНА!

Накупаўшыся, я выходзіў на бераг, калі пачуў за спіной: — Тану! Ратуйце! Я кінуўся ў ваду, хутка паплыў на крык і праз некалькі мінут убачыў мужчыну, які то знікаў, то паяўляўся над вадой.

Мне ніколі не даводзілася ратаваць тапельца, але я ведаў, што трэба схапіць яго за валасы, павярнуць на спіну, а потым цягнуць да берага.

— Вы што звар'яцелі? — загаласіў тапелец. — Чаго вы ў валасы мне ўчапіліся?

— Дык вы ж на ўвесь пляж крычалі „ратуйце".

— Я не вам крычаў, — аддыхаўся тапелец і перастаў тануць.

— Як не мне? Тады і трэба было крычаць: „Ратуйце, Іваноў, ці хто там у вас".

— Не Іваноў ён, — неахвотна сказаў мужчына і паказаў на бераг. — Вунь, бачыце, загарае ў чырвоных плаўках? Гэта я крычаў яму.

— Я хацеў паглядзець, будзе ён ратаваць мяне ці не.

— А ён што, ваш сваяк?

— Сваяк, — скрывіўся чалавек. — Разам працуем. А я ў мясцовым камітэце. Пакуль у яго не было кватэры, ён заўсёды вельмі ветлівы быў са мной. Аднак, як толькі атрымаў кватэру, не пазнаць чалавека, нават не вітаецца. Вось я і хацеў паглядзець, кінецца ён мяне ратаваць ці не. Крычу-крычу, а ён хоць бы паглядзеў у мой бок. Так і сапраўды ўтапіцца можна.

— Ну што вы, — сказаў я, — утапіцца не маглі, я ж прыплыў да вас.

— А можа, і вам патрэбна кватэра? Таму і прыплылі? — паглядзеў ён на мяне падазрона.

— Не, — адказваю, — кватэра ў мяне добрая. Гараж мне патрэбны. Але вы тут не дапаможаце.

— Не, — усміхнуўся чалавек, — я да гаражоў ніякіх адносін не маю.

— Ну, дык усяго вам, — развітаўся я і паплыў да берага. Я плыў, а фіктыўны тапелец крычаў:

— Ага, вось як! Гараж яму патрэбны, таму і ратаваць кінуўся. А каб не гараж, дык і тапіся? Вось людзі.

Без слоў.



Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.




Малюнкі Я. БУЛАВЫ.

**ПЕРАСТРОЙКА**

Перастройка і новое мышленне па-руску, перабудова і новае мысленне па-беларуску становіцца знакам нашага часу. Неабходны новы падыход да ўсіх дзялянак жыцця, нават асабістага, бо ён вельмі карысны, вельмі выгадны. У гэтым пераканаліся ўжо Аўдоцця са сваім прыяцелем Антонам.

У яго ёсць жонка і дзеці і ў яе ёсць муж і дзеці. І таму яны мусяць спатыкацца тайком, каб выражаць свае любоўныя пачуцці, бо не хочуць разбураць сваіх сем'яў. Ды гэтыя інтымныя спатканні заўсёды адбываліся пасля работы і часта трэба было тлумачыцца перад сваімі палавінамі вялікай колькасцю сходаў, пільных камандзіровак, якія займалі кусок вечара, а часам нават ночы.

Калі паявіліся заклікі адносна новага мыслення і перабудовы, Аўдоцця з Антонам моцна ўзялі іх да сэрца і вырашылі пайсці з духам часу, ды перабудаваць свае адносіны. Пастанавілі прыходзіць да працы не менш як на гадзіну раней і ў кабінеце дырэктара аддавацца адзін другому аж да змору. І ўсе шчаслівыя. Зніклі падазрэнні, закіды. Вядома было толькі ў хаце, што ў сувязі з перабудовай вельмі часта трэба раней прыходзіць на работу.

(мс)




**Не гавары за спіной бліжняга, не правярыўшы, хто яшчэ стаіць за яго спіной.**

